© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 40(76) 4-10 кастрычніка 1996 года Цана 1500 руб.

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Канстытуцыйны суд на сваім пасяджэнні прапанаваў прэзідэнту і дэпутатам Вярхоўнага Савета, якія ініцыіравалі вынясенне на рэферэндум праектаў Канстытуцыі, адклікаць свае прапановы. Ім таксама рэкамендавана будаваць свае ўзаемаадносіны выключна на аснове тых Канстытуцыі і законаў рэспублікі, што дзейнічаюць, і не прымаць у бліжэйшы час спроб змянення Асноўнага закона дзяржавы. Гэтая заява вызначыла пазіцыю Канстытуцыйнага суда ў канфлікце паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі.

Дэпутаты на сваёй сесіі прынялі пастанову аб тым, што пазбаўляюць журналістаў Белдзяржтэлерадыёкампаніі акрэдытацыі ў Вярхоўным Савеце "за сістэматычнае неаб'ектыўнае, тэндэнцыйнае асвятленне пасяджэнняў" і прапанавалі Старшыні ВС звярнуцца да кіраўнікоў расійскіх сродкаў масавай інфармацыі з просьбай надаваць больш увагі рабоце беларускага парламента. Парламентарыі стараюцца дабіцца выканання раней прынятых сваіх пастаноў і палажэнняў Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", каб тым самым атрымаць магчымасць уздзеяння на палітычнае жыццё грамадства.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, выступаючы на маладзёжным форуме ў Мінску, абвінаваціў шэраг паслоў-прадстаўнікоў краін NATO ў рэспубліцы ў тым, што яны некаторымі дзеяннямі дэстабілізуюць сітуацыю ў нашай краіне, "прыніжаючы беларускага прэзідэнта, а ў процівагу яму падтрымліваюць асобных дэпутатаў Вярхоўнага Савета".

Гэта ўсё больш падзяляе наша грамадства на два лагеры, прымушаючы ўсіх вызначыцца. Уцягваючыся ў канфрантацыю, мы ўсё больш аддаляемся ад пошукаў агульнанацыянальнай аб'яднальнай ідэі. Такія высновы можна зрабіць, калі супаставіць выступленне Лукашэнкі на сустрэчы з расійскай афіцыйнай дэлегацыяй на чале з віцэ-прэм'ерам Валерыем Сяровым (дзе прэзідэнт падкрэсліў, што ён гатовы нават пасля выпадаў у яго адрас знайсці адпаведныя шляхі для нармалізацыі ўзаемаадносін) і заяву ў размове з Г. Зюганавым (абавязковай умовай кампрамісу можа стаць адназначная падтрымка прапанаванага кіраўніком краіны праекта Асноўнага закона на рэферэндуме. Ніякіх іншых– "нулявых", "адзінкавых" і д. т. п. быць не можа).

***Аляксандр УЛАДЗІН.***

## Адным абзацам

❑19 кастрычніка абяцае стаць для Мінска багатым на палітычныя падзеі. Акрамя аб'яўленага прэзідэнтам усебеларускага народнага схода пройдзе Нацыянальны кангрэс "У абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры". Плануецца, што адкрые яго В. Быкаў, а ў другой палове дня адбудуцца мітынг і шэсце.

❑Другі раз забаставалі прыватныя прадпрымальнікі. 26 жніўня рынкі Мінска, Брэста і Магілёва былі пустыя. Прадпрымальнікі вырашылі супрацiўляцца, каб не трапіць пад двайное падаткаабкладанне. На сённяшні дзень існуюць ажно тры праекты Падатковага кодэкса, і да канца года неабходна выбраць аптымальны варыянт. Але ці пойдзе кіраўніцтва краіны на зніжэнне падаткаў?

❑Згодна з Указам прэзідэнта №382, з 1 студзеня 1997 г. павялічваюцца памеры стыпендыі: імянныя і стыпендыі аспірантаў– на 50%, мінімальныя– на 25%, сацыяльныя– на 30%.

❑У Мінску пачаў работу І каталіцкі сінод Беларусі. Да гэтай падзеі было прымеркавана адкрыццё і асвячэнне помніка ля Чырвонага касцёла: бронзавы анёл, архангел Міхаіл, забівае кап'ём змея– гэта сімвал перамогі дабра над злом. Грошы на стварэнне і ўстаноўку помніка выдзеліла адна мінская сям'я.

❑Каторы раз жыхары Беларусі пачнуць атрымліваць пашпарты з новай сімволікай. Новы дакумент будзе выконваць функцыі і замежнага. А з мэтай абнаўлення фотакарткі яго прыйдзецца мяняць у 25 і ў 45 год. За атрыманне новага пашпарта неабходна будзе заплаціць 30 тыс. рублёў.

❑Сёлета перыяд дзеяння летняга часу заканчваецца толькі 27 кастрычніка– у 3 гадзіны пераводам стрэлак гадзіннікаў на адну гадзіну назад.

12 кастрычніка 1996 года на цэнтральнай плошчы Маладзечна будзе праводзіцца

**кірмаш па продажы сельскагаспадарчай прадукцыі**

з удзелам калгасаў, фермерскіх гаспадарак, прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання ўсіх формаў уласнасці.

Пачатак гандлю ў 9-00, канцэртная праграма пачынаецца ў 11-00.

Запрашаем усіх на кірмаш.

*Маладзечанскія гарвыканкам, райвыканкам.*

## Прадпрымальнікі, яднайцеся!?

# Мітынгу не было

***Маладзечна. У мінулы панядзелак ля гарвыканкома меўся адбыцца мітынг прадпрымальнікаў. Трэба разумець— мітынг пратэсту. Прычына— прынятае напярэдадні рашэнне выканкома аб парадку выплаты падатку на прыбытак і падаходнага падатку. Ды ці то дождж перашкодзіў, ці то проста быў дзень цяжкі— мітынгу не атрымалася.***

Але ўсё ж самыя настойлівыя, актыўныя прадпрымальнікі прыйшлі і пастукалі ў дзверы ўлады. Замест мітынгу была сустрэча з Яфімам Ідэльчыкам, намеснікам старшыні выканкома.

Сутнасць згаданага рашэння ў тым, што для асноўнай масы прадпрымальнікаў, якія займаюцца пераважна дробным гандлем, уводзяцца фіксаваныя стаўкі падаткаў. Усё б нічога. Можна было б заплаціць за рэалізацыю вінна-гарэлачных вырабаў 25 мінімалак або за продаж квасу адну, за гандаль кнігамі– дзве. Уся штука ў тым, што патрабуецца папярэдняя аплата падаткаў. Да таго ж, спецыяльным пералікам вызначаны, як бы мовіць, прэстыжныя месцы гандлю, якія павялічваюць памер падатку на 30 працэнтаў.

Нечаканае для многіх рашэнне выканкома і неабходнасць цяпер жа заплаціць каму мільён, а каму і восем, выклікала спачатку бурную рэакцыю.

*Заканчэнне на 2-й стар.*

# Смаргонцам мяняюць мэра

***СМАРГОНЬ. У мінулым нумары "РГ" змясціла інфармацыю аб зняцці з пасады Генадзя Сафронава, намесніка старшыні гарвыканкома, і адстаўцы мэра Ільі Рака.***

Увесь тыдзень прапрацоўваліся кандыдатуры на вызваленыя пасады. Днямі пачалі гаварыць аб аб'яднанні горада і раёна. Магчыма, з панядзелка ў Смаргоні будзе працаваць абласная камісія па падрыхтоўцы гэтага складанага мерапрыемства. Аб развіцці падзей "РГ" будзе і надалей інфармаваць чытача.

***Аддзел інфармацыі.***

## Навіны

# "Узялі" АКБ

***МАЛАДЗЕЧНА. Нехта на выхадныя залез у памяшканне разлікова-касавага цэнтра філіяла АКБ "Брэсткамбанк".***

Раніцой у панядзелак рабочы палітэхнікума, як звычайна, прыйшоў у сваю "штаб-кватэру"– падвал інтэрната, што ля калгаснага рынку. Замок у падвал быў зламаны, невядомых не напалохаў і чырвоны надпіс на ўваходзе: "Небяспечна! 380V". Злачынцы праламалі частку агульнай сцяны, праз якую знаходзяцца арандуемыя банкам плошчы. Аўтагенам парэзалі арматуру, выгнулі яе, каб не перашкаджала.

На пытанне, "чаго не далічыліся банкаўскія служачыя?", дырэктар філіяла АКБ "Брэсткамбанк" Ніна Руткоўская запэўніла:

– Злачынцам пашчасціла, што яны паспелі ўцячы самі, без здабычы. Усё памяшканне абвязана прыборамі– некалькі рубяжоў абароны. Адразу спрацавала сігналізацыя, прыехала міліцыя. Невядомым была наканавана няўдача. Дадатковых мерапрыемстваў па ахове маёмасці банка не патрабуецца.

***Аддзел інфармацыі.***

# Ад Кубы да Камароўкі

***ВАЛОЖЫН. З настальгіяй успамінаюць на масласырзаводзе часы, калі сваю "візітную картку"— сыр "Расійскі"— адпраўлялі не толькі ў Маскву ды Ленінград, а нават на далёкую Кубу.***

Усё змянілася, не вараць тут "Расійскі" сыр: замест яго з'явіўся новы гатунак, які патрабуе малака ніжэйшай тлустасці. І прадаецца новая прадукцыя не ў нейкім замежжы, а ўсё больш на мясцовым рынку ды на сталічнай Камароўцы. Не вельмі хутка знаходзіць спажыўцоў і вырабленае на заводзе масла, хаця славіцца яно, як і сыр, выдатнай якасцю.

З чым не маюць праблемаў на прадпрыемстве, дык гэта са збытам сухога абястлушчанага малака. Яго з задавальненнем бяруць калгасы ў якасці ўзаемаразлікаў за здадзеную малочную сыравіну. А нядаўна з'явіўся і яшчэ адзін, больш прэстыжны адрас пастаўкі: 200 тон сухога абястлушчанага малака адгружана ў Турцыю.

***Таццяна ШАБЛЫКА.***

# Мяжа не пакарылася

***АСТРАВЕЦ. Людзі імкнуцца зарабіць чаўночным бізнесам. У такіх выпадках існуе сваё "але", якое тычыцца ўсіх памежных раёнаў. Без замежнага пашпарта і візы "чаііўнакі" прабіраюцца ў Літву ў абход-аб'езд КПП па лясах пад святлом месяца, цёмнымі ночкамі.***

Некаторыя трапляюць туды, а некаторыя прама "у рукі" пагранічнікаў. Сёлета за такія свавольствы было затрымана 139 чалавек. Праўда, 15 з гэтай колькасці злоўлены з кантрабанднымі таварамі. Яшчэ 14 чалавек рызыкнулі пабываць у нашым прыгранічным раёне без адпаведных дакументаў. Вось толькі шампанскага ім за падобную рызыку ніхто не наліваў.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

# Патрабуюцца на работу

***Цэнтры занятасці паведамілі аб вакансіях па стане на 2 кастрычніка.***

**Вілейка.** Аграном (1), механік (1), заатэхнік (1), ветурач (1), жывёлаводы (2 сям'і), оптык-механік (3), станочнік (4), электрамеханік (1), слесар-сантэхнік (1), слесар зборачных работ (4), інжынер прыборабудавання (1), інжынер прамысловай электронікі (1), трактарыст (1), цясляр (1), качагар (4), сталяр (1). *Тэлефон для даведак 54113.*

**Астравец**. Трактарыст (1), качагар (5), інжынер-электрык у банк (1), ветурач (1) заатэхнік (2), аграном (2). *Тэлефон для даведак 21708.*

**Маладзечна**. Жывёлавод (4), аграном (2), галоўны энергетык (4), галоўны інжынер (4), прадавец (2), электразваршчык (6), каменшчык (4), швяя (20).

*Служба знаходзіцца па адрасу: Вялікі Гасцінец, 147.*

## "Аўтаклуб" прадстаўляе

# "Шкода" групы "VW"

***Цікавы эксперымент па продажы новых легкавых аўтамабіляў распачала фірма "Пушэ" (рэклама "Аўтаклуба" рэгулярна з'яўляецца ў газетах). Рэдакцыя "РГ" пацікавілася станам спраў у кансультанта СП "Белаўтакрэдыт" Вольгі Пабядзінскай.***

- На 1-е кастрычніка прайшлі 2 размеркаванні аўтамабіляў. На кожнае планавалі па дзве машыны, але ўкладчыкі ішлі да нас настолькі актыўна, што ў першае размеркаванне змаглі выдзеліць 3 "Шкоды" (ад $8000 да $5600), на другое - 5 (ад $7360 да $6400).

Акрамя гэтага, 2 аўтамабілі знайшлі сваіх уладальнікаў з дапамогаю жэрабя. Гэтыя, без перавелічэння, шчасліўчыкі першапачатковы ўзнос не плацілі, але цяпер набылі "колы" ўсяго за $191 штомесячнай выплаты.

***- Аўтааматары самі змогуць пацікавіцца якасцямі новых легкавікоў у іх уладальнікаў. А што б вы адзначылі з боку прадаўца?***

- Відавочна, што сістэма вельмі зручная не толькі для індывідуалаў, але і прадстаўнікоў невялікага прыватнага бізнесу: новы аўтамабіль - рэч не надта танная, але ў нашым выпадку грошы з абароту практычна не выпадаюць.

***- Такім чынам, новенькая, "ва ўпакоўцы", "Шкода-Феліцыя" групы "Фольксваген"...***

- ...а гэта якасць, дызайн, 6 слаёў антыкаразійнага пакрыцця, год гарантыі (магчымы рамонт і абслугоўванне - ў Маладзечне) - чакае свайго гаспадара.

***Запісаў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

# "Папараць-кветку" знайшлі.

*Нічога асаблівага*

***МАЛАДЗЕЧНА. У куставой нарадзе дэлегатаў усенароднага беларускага схода ўзялі ўдзел прадстаўнікі Мядзельскага, Валожынскага, Вілейскага, Маладзечанскага раёнаў, Вілейкі і Маладзечна.***

Прыехаў і старшыня Мінаблвыканкома Пётр Пётух, які ставіў на мэце пагаварыць з людзьмі, даведацца пра іх меркаванні.

Дэлегаты наведалі выстаўку прамысловай прадукцыі на заводзе лёгкіх металаканструкцый, атрымаўшы тым самым уяўленне аб горадзе.

Натуральна, гаспадары запрасілі гасцей адабедаць. У рэстаран "Папараць-кветка". На бяскрыўднае пытанне аб гэтым службовыя асобы адрэагавалі па-рознаму.

***Пётр Лусто, старшыня АТ "Маладзечнаграмхарч":***

– Я вырашаю толькі арганізацыйныя пытанні, па забеспячэнню. Звярніцеся да дырэктара рэстарана.

***Таццяна Садоўская, дырэктар рэстарана "Папараць-кветка":***

– Каб вам адказаць, мне трэба вырашыць гэтыя пытанні з выканкомам.

***У выканкоме ўжо ведалі аб рэдакцыйных тэлефонных званках (Пётр Лусто інфармаваў), аднак абсалютна ніякіх сакрэтаў рабіць не сталі:***

– Згадзіцеся, галоднымі людзей не выправіш. На другім паверсе рэстарана накрылі сталы на 140 чалавек, прапанавалі звычайныя комплексныя абеды. Расходы нясе выканком.

Дададзім, што старшыні аблвыканкома падсілкавацца ў Маладзечне не давялося– яго "сарваў" кіраўнік адной з гарадскіх службаў, каб паказаць свае цяжкасці, тым самым папрасіць дапамогі. На месцы П. Пётуха любы быў бы незадаволены, а старшыня аблвыканкома– таксама чалавек...

***Аддзел інфар***

© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019


Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34, 37, 39.*

***Працягваем змяшчаць пералік персанальных спраў вязняў турмы №26 у Вілейцы, якія былі перададзены ў 1941 годзе ў турму №1 УНКВД Разанскай вобласці без вязняў. Калі камусьці вядомы лёс згаданых людзей, просім звязацца з рэдакцыяй.***

| №, прозвішча | год нар. | Калі, кім арыштаваны, паводле якога арт. крым. кодэксу. | У следстве (у чыім распараджэнні) або пакараны па якім артыкуле |
|---|---|---|---|
| 56. Лонскі Уладзімір Сцяпанавіч | 1921 | 23.05.1941 III аддзел упраўлення міліцыі Вілейскай вобл. | 12.04.1941 аблсуд Вілейкі, арт. 64, 76, 6 год |
| 57. Лаўрыновіч Юльян Іванавіч | 1888 | 14.11.1940 Шаркоўшчынскі райаддзел НКВД БССР | 12.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 72 КК БССР, 5 год |
| 58. Ліпскі Антон Антонавіч | 1903 | 5.01.1941 Дунілавіцкі райаддзел НКВД БССР | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74, 72 КК БССР, 8 год |
| 59. Мароз Вольга Сямёнаўна | 1915 | 14.06.1941 нарсуд I інст. Ільянскага р-на Вілейскай вобл. | 14.06.1941 нарсуд I інст. Ільянскага р-на, арт. 241 КК БССР, 1 год |
| 60. Нядзьведская Кацярына Васільеўна | 1925 | 15.04.1941 нарсуд I інст. Ільянскага р-на Вілейскай вобл. | 15.04.1941 нарсуд I інст. Ільянскага р-на, арт. 241 КК БССР, 1 год |
| 61. Мароз Мікалай Нічыпаравіч | 1922 | 16.06.1941 нарсуд I інст. г.Вілейкі | 16.06.1941 нарсуд I інст. г.Вілейкі, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 62. Мурашка Казімір Францавіч | 1884 | 9.01.1941 Пастаўскі райаддзел НКВД БССР | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74 КК БССР |
| 63. Маркевіч Пётр Канстанцінавіч | 1873 | 28.05.1940 народны следчы г.Вілейкі | 8.07.1940 Вілейскі аблсуд, арт. 72, 3 гады |
| 64. Мацко Адам Антонавіч | 1920 | 26.03.1941 нарсуд Кестынгійскага р-на Карэла-Фінскай ССР | 26.03.1941 нарсуд Кестынгійскага р-на КФАССР, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 65. Мароз Васіль Яфімавіч | 1920 | 16.06.1941 нарсуд I інст. г. ілейкі | 16.06.1941 нарсуд I інст. Вілейкі, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 66. Матысік Станіслаў Паўлавіч | 1909 | 14.09.1940 II аддзел упраўлення НКВД Вілейскай вобл. | 12.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 72 КК БССР, 8 год |
| 67. Мацяеўскі Зыгмунт Альфонсавіч | 1898 | 9.01.1941 Дунілавіцкі райаддзел НКВД Вілейскай вобл. | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74, 8 год |
| 68. Мамыш Антон Іванавіч | 1906 | 23.04.1941 Вілейскі аддзел НКВД | 14.06.1941 нарсуд I інст. Куранецкага р-на, арт. 241 КК БССР, 1 год |
| 69. Марцінкевіч Павел Антонавіч | 1913 | 26.02.1941 нарсуд I інст. г. Вілейкі | 26.02.1941 нарсуд I інст. г. Вілейкі, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 70. Млечка Іван Адамавіч | 1920 | 21.05.1941 нарсуд Крывіцкага р-на Вілейскай вобл. | 21.05.1941 нарсуд I інст. Крывіцкага р-на, паст. ад 26.06.1940, 3 м. |
| 71. Альшук Альжбета Пятроўна | 1880 | 21.09.1940 нарсуд. I інст. Ільянскага р-на Вілейскай вобл. | 21.09.1940 нарсуд I інст. Ільянскага р-на, арт. 240, 1 год 6 мес. |
| 72. Паўловіч Надзежда Ільінічна | 1915 | 18.11.1940 нарсуд I інст. Радашковіцк. р-на Вілейскай вобл | 18.11.1940 нарсуд I інст. Радашковіцкага -на, арт. 241, 6 мес. |
| 73. Петух Уладзімір Міхайлавіч | 1921 | 15.03.1941 нарсуд I інст. г. Вілейкі | 15.03.1941 нарсуд I інст. г.Вілейкі, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |

*Працяг будзе.*

# Мітынгу не было

*Заканчэнне.*

*Пачатак на 1-й стар.*

Пасля, у кабінеце намесніка старшыні, гучалі ўжо больш спакойныя просьбы ці то адмяніць наогул гэтыя падаткі, ці то зменшыць у паўтара- два разы іх памеры, ці то адкласці тэрмін аплаты на паўмесяца-месяц. Агрэсіўнасці і ўпартасці не было, як не было і паслядоўнасці ў дасягненні мэты. Здаецца, мэта таксама не набыла выразных абрысаў.

Аргументы ж Яфіма Ідэльчыка былі простымі: ёсць рэаліі, на якія мы можам паўлываць, і тыя, на якія не. Калі на нешта мы не можам паўплываць, то навошта пра гэта і гаварыць.

Рашэнне аб стаўках фіксаванага падатку прынята Кабінетам Міністраў. КМ даў даручэнне аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому ўстанавіць стаўкі па абласцях. Наколькі здольны гарадскі выканаўчы камітэт уплываць на рашэнні вышэйстаячых выканаўчых органаў? Нельга не пагадзіцца з намеснікам старшыні, што ў Маладзечне сітуацыя нікольки не горшая за суседнюю Вілейку ці, да прыкладу, Дзяржынск– таксама гарады абласнога падпарадкавання, дзе стаўкі падаткаў, рэкамендуемыя аблвыканкомам, аднолькавыя. У межах жа сваёй кампетэнцыі Маладзечанскі гарвыканком на некаторыя віды гандлю і паслуг (напрыклад, гандаль аўтазапчасткамі) падаткі знізіў. Але гэта толькі пазіцыя выканкома, якую можна зразумець. Можа быць і пазіцыя другога боку. Дробны прыватны гандаль сёння практычна нікім і нічым не абаронены.

Віталь Качаткоў узяўся за свой бізнес два гады таму. Спачатку дапамагаў прадпрыемству спартыўных латарэй вярнуць да рэнтабельнасці кіёскі «Спортлато». І гэта з дапамогай спадарожнага тавару ён зрабіў. Цяпер арандуе плошчы ў АТ «Маладзечнагандаль», іншымі словамі– закуткі ў магазінах, а таксама два ларкі. Арэндадавальнік сёння ставіць умову– не гандляваць тым таварам, які знаходзіцца ў яго магазінах. У выніку з прылаўкаў Качаткова, і не толькі яго, зніклі піва, пячэнне, цукар, мука. Застаўся пераважна кітайскі тавар, на які не вельмі кідаецца пакупнік. Тут нельга абвінавачваць і «Маладзечнагандаль». Не хочаш– не арандуй плошчу. Гэта фактар суб'ектыўны.

Фактар аб'ектыўны– знікае канкурэнцыя, вяртаецца манапалізм. Тут бы дзяржаве і падтрымаць таго ж Качаткова зніжэннем падаткаў, увядзеннем ільгот, хай сабе па першым часе. Няхай чалавек паднімецца, адкрые свой павільён побач з тым самым гастраномам і гандлюе півам, мукой, цыгарэтамі. Замест гэтага за шыльдай упарадкавання збору падаткаў (фіксаваныя стаўкі– добра!) фіскальная сістэма самаўдасканальваецца да ненармальнасці. Сёння прадпрымальнік Алег Лях сур'ёзна задумваецца над тым, што прыйдзецца, магчыма, зачыніць восем гандлёвых пунктаў і разам з дванаццацю сваімі работнікамі прыйсці на біржу працы станавіцца ў чаргу соцень іншых беспрацоўных. Каму гэта трэба?

Пазіцыя другога боку сапраўды ёсць. Яна была пачута ў выканкоме. Але што з таго? І правільна гаспадар кабінета гаварыў: я вас выслухаў. Але праз некаторы час да мяне прыйдуць іншыя прадпрымальнікі і будуць гаварыць па-іншаму, сцвярджаючы, што менавіта яны ёсць прадстаўнікі мясцовага бізнесу.

Іншыя могуць і не прыйсці. Самыя актыўныя сябе выявілі. Але няма ў прадпрымальнікаў сваёй арганізацыі, дзе б можна было загадзя абмеркаваць сваю пазіцыю, дакладна яе сфармуляваць. У выканкоме так і не дачакаліся абяцаных ініцыятыўнай групай аргументаваных прапаноў аб зніжэнні падаткаў, аб пераносе тэрмінаў плацяжоў. Не бяруся гадаць: возьмецца, напрыклад, Аляксандр Мядзведзь, які на сустрэчы быў за старшыню ад прадпрымальнікаў, за стварэнне нейкага грамадскага аб'яднання бізнесменаў або прафсаюза ці не. І так клопату хапае. Як у любога з плямені дзелавых людзей. Адно магу сказаць, калі прадпрымальнікі будуць адчуваць сябе толькі канкурэнтамі ў справе продажу шакаладак і памперсаў, а не калегамі, да таго часу любое рашэнне выканкома для іх будзе нечаканасцю. Мяркую, з арганізацыяй прадпрымальнікаў маладзечанскі выканком на супрацоўніцтва пойдзе. Навошта лішнія клопаты– мітынгі пад вокнамі, хай сабе і не адбыўшыеся пакуль?

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

***Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» папрасіла свайго кансультанта ў справах прадпрымальніцтва Сяргея БАЛЫКІНА даць каментар калізіі.***

*– Рашэннем Мінаблвыканкома і, як вынік, рашэннем Маладзечанскага гарвыканкома былі ўстаноўлены стаўкі падаходнага падатку з прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы ў цвёрдых сумах і тэрміны выплаты падаходнага падатку. Сапраўды, Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян» прадугледжана, што «Абласныя і Мінскі гарадскі саветы дэпутатаў ці па іх даручэнню адпаведныя выканаўчыя і распарадчыя органы могуць устанаўліваць стаўкі падаходнага падатку ў цвёрдых сумах на даходы ад занятку асобнымі відамі дзейнасці, пералік якіх вызначаецца Кабінетам Міністраў РБ».*

*Адзначаючы ў цэлым як станоўчую з'яву ўстанаўленне падаходнага падатку ў цвёрдых сумах і аддаючы належнае Маладзечанскаму гарвыканкому за памяркоўнасць апетыту, асабліва ў параўнанні з Мінскім гарвыканкомам, нельга не заўважыць, што артыкул 15 згаданага закона сцвярджае: «Грамадзяне, зарэгістраваныя ва ўстаноўленым парадку ў якасці прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы, самастойна разлічваюць і аплачваюць падаходны падатак штоквартальна з нарастаючым вынікам з пачатку года не пазней за 5 чысло другога месяца, які ідзе за справаздачным кварталам». Ніводным з артыкулаў закона не прадугледжана выплата падаходнага падатку прадпрымальнікамі авансавымі плацяжамі.*

*Пастанова Кабінета Міністраў, а таксама рашэнні аблвыканкомаў і гар- і райвыканкомаў у частцы, якая ўстанаўлівае тэрміны выплаты падаходнага падатку, на маё меркаванне, не адпавядае Закону РБ «Аб падаходным падатку з грамадзян», які мае большую сілу, чым пастанова КМ.*

*Любы з прадпрымальнікаў мае права звярнуцца ў Гаспадарчы суд Мінскай вобласці (Мінск, вул. Валадарскага, 8) з іскам аб прызнанні рашэнняў Мінскага аблвыканкома і Маладзечанскага гарвыканкома несапраўднымі, калі яны не адпавядаюць заканадаўству. Стаўка дзяржпошліны пры такім звароце складае 10 мінімальных заработных плат.*

# Камерсантаў "здаюць"

***ВІЛЕЙКА. Міжрайаддзел падатковых расследаванняў невялікім штатам у сем чалавек вяртае дзяржаве вялікія грошы. Звыш за 10 мільярдаў рублёў завінаваціліся ад пачатку года камерсанты Вілейшчыны і Мядзельшчыны.***

Аддзел працуе, каб усе своечасова і поўнасцю плацілі падаткі. На жаль, за 8 месяцаў 34 суб'екты гаспадарання парушылі законы. 138 чалавек прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці і аштрафаваны на 40 мільёнаў рублёў. Падазроных камерсантаў "здаюць" падатковай міліцыі. А тая ўжо іх "раскручвае" і, калі ёсць падставы, даводзіць справу да суда. З пачатку года 4 чалавекі асуджаны па крымінальных артыкулах.

– Як маем справу з канкрэтнымі фірмамі і прыватнымі прадпрымальнікамі,– гаворыць інспектар аддзела Аляксей Малафей,– бывае, сутыкаемся з прывідамі. У нашых раёнах 6 спіртзаводаў. Закон такі: купіў гарэлку– заплаці акцызны падатак. Каб не плаціць, дакументы афармляюць на расійскія фірмы. А тыя акцызнага падатку пазбаўлены– іншаземцы. А бывае яшчэ горш. Малое прадпрыемства "Промск" з Капыля заключыла дагавор аб набыцці гарэлкі Любанскага спіртзавода. Своечасова пералічыла за прадукцыю грошы. Аднак потым высветлілася, што "Промск" дачынення да гэтай здзелкі не мае. Пачалі разбірацца, як магла пячатка МП трапіць у чужыя рукі. Дырэктар успомніў, што аднойчы завярыў сябру ліпавы дакумент. Сляды прывялі ў Прыбалтыку. Пакупнікі спалохаліся і зніклі, пакінуўшы аплачаную частку тавару– на 147 мільёнаў рублёў "Зуброўкі".

З падраздзяленнямі міліцыі аддзел праводзіць аператыўныя мерапрыемствы. Напрыклад, разам з АБЭЗам затрымалі былога старшыню Рабуньскага сельсавета Вілейскага раёна Валерыя Багдановіча, які скупляў і рэалізоўваў валюту. Пры затрыманні валютчык з'еў стодоларавую купюру. Але і без гэтага доказу суд разгледзеў крымінальную справу і аштрафаваў Багдановіча на 6 мільёнаў рублёў.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Усе ўздыхнуць з палёгкай

***АСТРАВЕЦ. Днямі пачаўся рух аўтамабіляў па аб'язной дарозе Малі-Гудагай-Ашмяны вакол пасёлка.***

Патрэба ў ёй узнікла даўно, бо веялікагрузныя фуры, якія штодня "штурмавалі" Астравец, ніякага камфорту жыхарам не надавалі. Хіба толькі пылу і дыму большага, ад якіх было не прайсці, не дыхнуць. Па працягласці яна склала 4,5 кіламетра. З пачатку, а было гэта ў мінулым годзе, і да заканчэння вяло будаўніцтва мясцовае ДРБУ-159. Можна, зразумела, было б і хутчэй завяршыць гэтую работу, але грошы з дзіравага бюджэту не часта і не густа пераліваліся на рахунак падрадчыка. Кажуць, у хуткім часе пры ўездзе ў Астравец з боку Гудагая з'явіцца пост ДАІ і заправачная станцыя.

Уздыхнулі цяпер вадзіцелі, будаўнікі і бацькі. Першыя— ад новай дарогі, другія— што з'явіліся выхадныя, бо апошнія месяцы даводзілася працаваць нават у нядзелі, трэція— ад таго, што можна з меншай трывогай адпускаць дзяцей на вуліцы.

*Аддзел інфармацыі.*

# Чалавеку столькі, на колькі ён сам сябе пачувае

***МАЛАДЗЕЧНА. Ганна Бандаровіч пенсіянерка, якая працуе. Сорак гадоў рабіла настаўнікам-філолагам спачатку на Астравеччыне, але большую частку ў школах Маладзечна.***

Разам з мужам зараблялі няшмат, таму многа здароўя, часу страцілі, каб набыць кааператыўную кватэру, машыну. Чатыры гады таму настаўніца пачала актыўна пісаць карціны, складаць вершы. Упершыню пэндзлік узяла ў рукі даўно, гледзячы на суседку. Тая малюнкамі зарабляла на жыццё, бо муж атрымаў 25 гадоў пазбаўлення волі па палітычнаму артыкулу. Свае творы Бандаровіч прадае– з ахвотай купляюць пейзажы знаёмыя і сябры. На выручаныя грошы жыве, а школьным заробкам дапамагае сыну будаваць, разлічвацца за кааператыўную кватэру.

Тэматыка вершаў Ганны Іванаўны розная і, можа, неактуальная: дабрыня, чалавечнасць, каханне. Шмат радкоў для маленькіх.

–Бывае, чытаю Блока, і плачу,– успамінае настаўніца,– паэзія кранае сэрца і душу.

Жыццё жанчыны не салодкае. У вайну бацька партызаніў. Калі фашысты палілі вёску, хаваліся з братам у яме. Голад, холад– спадарожнікі пасляваеннага пакалення.

Але адчуваецца аптымізм Ганны Іванаўны: у манеры апранацца, поглядах на жыццё. Назваць яе састарэлай можна толькі па ўзросту. Але гады не заўсёды адлюстроўваюць стан чалавека.

*Васіль САВІЦКІ.*

